# НЯМЕЦКІЯ ТЭХНАЛОГІІ — ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ ПАЛЕТКАЎ

**КАЛГАС ІМЯ СУВОРАВА ПАСТАЎСКАГА РАЁНА — вядомая ў рэспубліцы гаспадарка, свайго роду універсітэт сапраўднага гаспадарання на зямлі. Усё, што зроблена тут, непарыўна звязана з яго старшынёй Алегам Валадзько — выдатным арганізатарам вытворчасці і знаўцам самых найноўшых тэхналогій вырошчвання і перапрацоўкі сельгаспрадукцыі. Многае ўражвае нават пры беглым знаёмстве са станам спраў навасёлкаўскіх працаўнікоў. Высокія ўраджаі збожжавых, кармавых культур, рэкордныя для Віцебшчыны і нават рэспублікі надоі малака, прыбаўленні ў вазе жывёлы — усё гэта вынік самаадданай стваральнай працы мясцовых земляробаў, укаранення ў вытворчасць найноўшых дасягненняў айчыннай навукі і тэхнікі.**

**«Але надышоў такі час, — гаворыць Алег Адольфавіч, — калі мы зразумелі, што без укаранення ў вытворчасць найноўшых заходніх тэхналогій вырошчвання і перапрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі, сёння ўжо не абысціся. Уважліва вывучалі вопыт гаспадарання на зямлі ў Галандыі, Італіі, многіх іншых краінах Еўропы. Вырашылі ўзяць за аснову нямецкія тэхналогіі — найбольш перспектыўныя, а галоўнае — прыдатныя для нашай сістэмы арганізацыі вытворчасці».**

**Асабліва цесныя сувязі склаліся ў навасёлкаўскіх земляробаў з вядомай германскай фірмай «Гебрудэр Штоц». За апошнія тры гады нямецкія партнёры паставілі для гаспадаркі неабходны набор тэхнікі, прычапнога інвентару для апрацоўкі палеткаў, сяўбы і догляду за культурамі. І вынікі не прымусілі сябе доўга чакаць: рэзка павысілася ўраджайнасць збожжа, кукурузы, іншых культур, у некалькі разоў павялічылася прадукцыйнасць працы, удалося зэканоміць дзесяткі тон гаруча-змазачных матэрыялаў.**

**Сапраўдная рэвалюцыя адбылася і ў сферы перапрацоўкі сельгаспрадукцыі. Два гады назад тут здадзены ў эксплуатацыю сырзавод. Гэта высокамеханізаванае прадпрыемства праектавалася і будавалася з удзелам таксама вядомай нямецкай фірмы — «Адэльбуер». У суткі тут вырабляюць прыкладна 2,8 тоны выдатнай прадукцыі. Аб яе якасці сведчыць хоць бы той факт, што мясцовыя сыры ахвотна купляюць як у нашай рэспубліцы, так і ў суседняй Расіі. У прыватнасці, паступаюць заказы і з Масквы, Санкт-Пецярбурга, іншых месцаў. Карыстаецца попытам і мясцовае масла, якога вырабляецца каля 300 кілаграмаў у суткі. Летась уступіў у строй і цэх па перапрацоўцы мяса. Цяпер каўбасы, выробленыя па нямецкай тэхналогіі, ідуць нарасхват.**

**Сярод вядомых нямецкіх бізнесменаў, якіх на мінулым тыдні прыняў Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка, былі і прадстаўнікі фірмаў «Гербрудэр Штоц» і «Адэльбуер». А напярэдадні гаспадар фірмы «Гербрудэр Штоц» Пітэр Штоц разам са сваімі калегамі і старшынёй калгаса імя Суворава Алегам Валадзько пабывалі ў рэдакцыі «Звязды». Адбылася цікавая размова па праблемах больш шырокага ўкаранення нямецкіх тэхналогій на беларускай зямлі.**



Начальнік цэха па вытворчасці сыру Аляксандр МАНУШЫН і аператар Аляксандр ТАНАНА на складзе гатовай прадукцыі.



Так выглядае цэх па вытворчасці сыру

## Алег ВАЛАДЗЬКО:

## «КАЛІ ХОЧАМ ЖЫЦЬ У ЦЫВІЛІЗАВАНЫМ ГРАМАДСТВЕ, ТРЭБА ВУЧЫЦЦА ПРАЦАВАЦЬ ПА-НОВАМУ»



У мяне часта пытаюць, што сёння найперш патрэбна для сельскай гаспадаркі? Адказваю заўсёды адно: найноўшыя тэхналогіі. Гэта перакананасць выспела даўно. Чым больш ездзіў па свеце, уважліва знаёміўся з перадавымі заходнімі тэхналогіямі, тым больш пераконваўся ў тым, што іншага шляху няма. Менавіта іх тэхналогіі — найбольш высокапрадуктыўныя, а значыць, і найбольш прыдатныя для нас. І справа нават не ў тым, хто гаспадарыць на зямлі — калгас ці фермер, бо законы вытворчасці ўсюды адны: як з найменшымі затратамі атрымаць найбольшы выхад прадукцыі, прычым высокай якасці.

Яшчэ тады, калі капеечным нафтавым рэкам, здавалася, ніколі не будзе канца, я разумеў, што рана ці позна абставіны перакрыюць кран таннага паліва. А таму рыхтаваўся да гэтага, прыкідваў, дзе знайсці энергазберагальную тэхніку, больш эфектыўныя тэхналогіі вырошчвання і перапрацоўкі сельгаскультур. Паступова свой погляд скіраваў у бок Германіі І не выпадкова. Культура земляробства там найбольш высокая, да таго ж вельмі эканамічная сельскагаспадарчая тэхніка.

Не ўнікаючы ў падрабязнасці, заначу, што вельмі ўдзячны лёсу за тое, што звёў мяне з вядомай у Германіі фірмай «Гербрудэр Штоц» і яе гаспадаром Пітэрам Штоцам. Яны паставілі нам высокапрадукцыйныя трактары маркі «Мерседэс», а таксама сеялкі, плугі, фрэзы, раскідвальнікі ўгнаенняў, апырсквальнікі, буракаўборачны камбайн і шэраг іншых машын — усяго на 1 мільён 667 тысяч 286 дойчмарак. Прывяду такі прыклад. Трактар «Кіравец» за поўны працоўны дзень спажывае недзе каля 600 кілаграмаў паліва, у той час як нямецкі трактар маркі «Мерседэс» пры той жа прадукцыйнасці — усяго 180—200 кілаграмаў. Такія ж прыкладна суадносіны і пры параўнанні нашай тэхнікі з нямецкімі машынамі і агрэгатамі.

Возьмем для прыкладу разлікі па эканоміі паліва за кошт укаранення нямецкай тэхналогіі пры апрацоўцы палеткаў у мінулым годзе. Было ўзарана 2400 гектараў, пракультывавана 2350 гектараў, засеяны 2703 гектары, унесены ўгнаенні на плошчы 3207 гектараў, праведзена хімапрацоўка на 4145 гектарах, вывезена жыжка на 2830 гектараў, убрана кукуруза 2120 гектарах. Работа па новай тэхналогіі дазволіла зэканоміць 82,5 тоны паліва на суму 237 мільёнаў рублёў. Нямецкія сябры аказалі дзейсную дапамогу ў забеспячэнні высокаэфектыўным насенным матэрыялам, запчасткамі і г. д. Нямецкія ж спецыялісты вучылі нашых механізатараў, як працаваць у новых умовах і па новай тэхналогіі. У выніку прадукцыйнасць працы ўзрастае ў 3-4 разы і больш.

Найбольш выразна перавагі нямецкай тэхналогіі выявіліся пры вырошчванні кукурузы. Пры ўраджайнасці 323 цэнтнеры з гектара мы атрымалі прыкладна 43.620 цэнтнераў зялёнай масы кукурузы. Сабекошт 1 кілаграма кукурузнага сіласу склаў 56,8 рубля, у той час як кілаграм камбікорму абыходзіцца ў 1704 рублі. Такім чынам, кошт 1 кілаграма камбікорму раўназначны 30 кілаграмам паўнацэннага кукурузнага корму. Словам, пры такой ураджайнасці гектар кукурузнага палетка здольны пракарміць 6 кароў, у той час як гектар травяных угоддзяў нават пры самых аптымальных раскладках здольны пракарміць не больш як 3 каровы. Да таго ж яшчэ трэба выкарыстоўваць і канцэнтраты. Аналізуючы зробленае за гэтыя тры гады, можна смела сказаць, што тая тэхналогія, якую прапаноўвае сёння нямецкі бок, у прыватнасці фірма «Гербрудэр Штоц», з'яўляецца выйсцем з той крытычнай сітуацыі, у якой апынулася наша сельская гаспадарка. Працаваць далей па старому, выкарыстоўваць ранейшыя тэхналогіі, нізкапрадукцыйную айчынную тэхніку — значыць свядома асуджаць сябе яшчэ на доўгія гады паўжабрацкага гібення. Калі ж хочам жыць у цывілізаваным грамадстве — трэба вучыцца працаваць па- новаму.

Не менш важнае значэнне для нас мае і перапрацоўка прадукцыі. Зноў жа мы ўдзячныя нямецкай фірме «Адэльбуер», з дапамогай якой удалося наладзіць перапрацоўку малака і мяса. За кароткі час яны зманціравалі завод, які адпавядае самым найноўшым патрабаванням. Прадпрыемства ўяўляе сабой высокааўтаматызаваную сістэму, дзе ўсё падпарадкавана адзінаму тэхналагічнаму цыклу. Тут у некалькі разоў вышэй прадукцыйнасць працы, чым на аналагічных прадпрыемствах айчыннай малакаперапрацоўчай вытворчасці. Штодзень перапрацоўваем каля 30 тон малака. Яго ахвотна прывозяць гаспадаркі Пастаўскага і суседніх раёнаў. Сакрэт просты: плацім больш за дзяржаўныя малаказаводы і разлічваемся адразу, а не расцягваем аплату на тыдні і месяцы.

Часта аналізую сітуацыю: як бы мы выжылі сёння (за апошнія дзевяць месяцаў прадукцыя падаражэла ў 12 разоў), калі б не ўласная перапрацоўчая вытворчасць? А так і прадукцыю пастаўляем спажыўцам, і зарплату плацім людзям, і вялізныя падаткі адлічваем у дзяржаўную казну, і яшчэ сацыяльную сферу трымаем на сваіх плячах. З нейкім асаблівым пачуццём кожны дзень стараюся пабываць на сырзаводзе. І не толькі таму, што патрабуецца маё асабістае ўмяшанне ў ход спраў. Тут я адпачываю душой, гледзячы, з якой дакладнасцю, стараннем працуюць людзі, як выдатна адладжаны ўвесь тэхналагічны працэс. Вось так бы ўсюды!

Вядома, для будаўніцтва падобных прадпрыемстваў патрэбны немалыя сродкі. Але ж і эфект які! Пабудаваны год назад сырзавод ужо амаль поўнасцю акупіўся.

Многае дало мне, як кіраўніку гаспадаркі, супрацоўніцтва з немцамі. Узяць тую ж фірму «Гербрудэр Штоц». Гэта адзіная ў Германіі арэндная фірма па вытворчасці сельскагаспадарчай тэхнікі. Адначасова гэта прадпрыемства абслугоўвае больш за паўтары тысячы гаспадарак. Тут ёсць чаму павучыцца: тэхналогіі, эканоміі, уменню гаспадарыць на зямлі, арганізацыі вытворчасці. Мне, які аддаў сельскай гаспадарцы больш за 30 гадоў жыцця, горка ўсведамляць, наколькі адсталі мы ў земляробстве і жывёлагадоўлі ад цывілізаванага свету, і ў першую чаргу — ад немцаў. Яшчэ не позна, як кажуць, узяцца за розум. У нас для гэтага ёсць усё: добрыя землі, працавітыя людзі, сапраўдныя хлебаробы. Неабходна толькі навучыцца як след працаваць на зямлі, укараніць найноўшыя тэхналогіі. Іх нават не трэба вынаходзіць, яны ёсць, апрабаваныя ў самых розных умовах. Мы і так ужо шмат згубілі часу, давялі народ амаль да жабрацкага стану. Важна даць людзям работу і магчымасць добра зарабляць. І вынікі не прымусяць сябе доўга чакаць.

## Пітэр ШТОЦ:

## «МЫ ПРЫЕХАЛІ СЮДЫ НЕ З ПАДАЧКАМІ, А З ТЫМ, КАБ ЗАРАБЛЯЦЬ ГРОШЫ І НАВУЧЫЦЬ ГЭТАМУ ВАС»

Пайшоў чацвёрты год, як мы пазнаёміліся з калгасам імя Суворава і яго старшынёй Алегам Валадзько. Калі ён унік у сутнасць тэхналогіі апрацоўкі палеткаў, якую ўкараняе наша фірма, з расцэнкамі (дарэчы, немалымі), то адразу зазначыў: «Усё гэта добра, але пакажыце мне хоць аднаго немца і наогул любога замежнага бізнесмена, які б «пад чэснае слова» даў хоць нешта без папярэдняй аплаты?»

Аднак пасля таго, як Алег паказаў нам сваю гаспадарку, прадпрыемствы, што дзейнічалі там, я зразумеў: з такім чалавекам можна мець справу, такому варта даверыцца. Адразу без папярэдняй аплаты прадаставіў яму неабходны набор тэхнікі, сельгасмашын. Дамовіліся, што аплату потым калгас будзе ажыццяўляць таварамі. Так узніклі не проста партнёрскія сувязі, а нешта больш моцнае — дружба. Ён некалькі разоў быў у нас у гасцях, знаёміўся з арганізацыяй работы фірмы, тых гаспадарак, якія мы абслугоўваем. Дарэчы, наша фірма існуе ўжо чвэрць стагоддзя. У нас даволі вялікія магчымасці для аказання неабходнага комплексу паслуг сельскагаспадарчым прадпрыемствам, у тым ліку і фермерскім гаспадаркам. Выконваем неабходны комплекс работ: апрацоўку глебы, сяўбу, догляд за пасевамі і ўборку ўраджаю, адначасова праводзім кансультацыі па праблемах сельскагаспадарчай вытворчасці.

Пасля аб'яднання Германіі ў былых усходніх правінцыях мы стварылі цэлую сетку сваіх прадпрыемстваў. Займаемся там земляробствам і жывёлагадоўляй. Вопыт, што накапіла фірма пры супрацоўніцтве з гэтымі гаспадаркамі, якія па сваіх плошчах падобныя на беларускія калгасы, мяркую, спатрэбіцца менавіта тут, у вас. Ёсць усе падставы стварыць і на вашай зямлі гаспадаркі, якія з поспехам дзейнічаюць у Германіі. Вядома, такіх гаспадарак, як калгас імя Суворава, трэба яшчэ пашукаць. Нават я, добра знаёмы з сельскагаспадарчай вытворчасцю, шмат дзе быў і нямала бачыў, здзівіўся пасля знаёмства з тутэйшымі земляробамі. У іх усё прадумана, узважана, а таму і працаваць з імі — адно задавальненне. Але што датычыцца набору вашай тэхнікі, яе эфектыўнасці — тут ужо няма ніякага параўнання. У выніку нават гэты перадавы калгас далёкі ад тых параметраў, якія дасягнуты ў большасці гаспадарак Германіі. Аднак, улічваючы выключную працавітасць вашых людзей, той аб'ём ведаў, якім валодаюць мясцовыя спецыялісты, менавіта пры выкарыстанні германскіх тэхналогій яны здольныя ў самы кароткі час выйсці на перадавыя рубяжы ў сусветным земляробстве. Вядома, пры стварэнні неабходных умоў. Немалаважную ролю адыграюць і кансультацыі, якія будуць праводзіцца нашымі спецыялістамі. Што датычыцца неабходнага набору тэхнікі, то яе пастаўкі можна ажыццявіць у сціслыя тэрміны і па адносна нізкіх цэнах. Не абысціся і без высокапрадуктыўнага насення, сродкаў аховы раслін.

На прыкладзе гаспадарак, што дзейнічалі ва ўсходняй Германіі, мы даказалі, што ўсяго за некалькі гадоў можна падвоіць ураджайнасць асноўных сельскагаспадарчых культур. Гэта было дасягнута пры адначасовым павышэнні прадукцыйнасці працы, змяншэнні выдаткавання паліва, больш рацыянальным выкарыстанні ўгнаенняў. Пры беражлівых адносінах да тэхнікі тэрміны яе эксплуатацыі таксама ўдаецца значна падоўжыць. Упэўнены, што і тут усяго за тры—пяць гадоў можна намнога павысіць урадлівасць палеткаў, выйсці на паказчыкі еўрапейскага ўзроўню.

Трохгадовы вопыт нашай сумеснай работы тут, у калгасе імя Суворава, яшчэ раз пацвердзіў, што пры ўмелым падыходзе да справы можна хутка знайсці агульную мову, у самыя сціслыя тэрміны ўзняць прадуктыўнасць палеткаў, вырошчваць на іх экалагічна чыстую прадукцыю, якая так патрэбна вашым людзям. Яна павінна на месцы перапрацоўвацца з наступнай рэалізацыяй. І ў гэтым мы можам аказаць неабходную дапамогу, бо важна не толькі атрымаць нейкі прадукт, але і як след упакаваць яго, бо без гэтага на рынак не выйсці.

А цяпер некалькі слоў адносна тых праектаў больш шырокага супрацоўніцтва з беларускімі гаспадаркамі, якія распрацавалі спецыялісты нашай фірмы і якія мы гатовы ажыццяўляць на вашых землях. Пры разліках зыходзілі з таго, што 30 тысяч гектараў агульнай плошчы будзе знаходзіцца пад ворывам і 20 тысяч — пад травамі. На гэтай тэрыторыі пажадана мець пэўную колькасць буйной рагатай жывёлы, а таксама свіней. Разлікі патрэбнасці ў тэхніцы зроблены на аснове таго вопыту, што набыты ў нашых буйных гаспадарках, размешчаных у землях Мекленбург — Фарпомперн. У праекце намі ўлічаны 25-гадовы вопыт выкарыстання сельгастэхнікі ў дробных фермерскіх, а таксама ў сярэдніх і буйных гаспадарках зямлі Шлезвіг-Гольштэйн. Прапанаваны набор тэхнікі ўключае 20 сямікорпусных плугоў прадукцыйнасцю да 1,5 гектара ў гадзіну кожны, 8 дыскавых барон прадукцыйнасцю 4 гектары ў гадзіну, 10 пнеўматычных раскідвальнікаў мінеральных угнаенняў з шырынёй захопу 24 метры і прадукцыйнасцю 18 гектараў, 12 комплексаў перадпасяўной апрацоўкі глебы прадукцыйнасцю 4 гектары ў гадзіну, 12 сеялак з шырынёй захопу 6 метраў і прадукцыйнасцю 4 гектары ў гадзіну, 25 трактароў магутнасцю 230 конскіх сіл і 2 трактары магутнасцю па 100 конскіх сіл. А яшчэ прапануюцца раскідвальнікі гною, прэсы для цюкавання саломы, валковыя бароны ў камбінацыі з сеялкамі, кукурузныя сеялкі, кормапрыгатавальнікі з прыстасаваннем для ўзважвання, самаходныя касілкі-здрабняльнікі прадукцыйнасцю ад 30 да 45 гектараў у дзень кожная, валкавальнікі, граблі, касілкі для траў, апырсквальнікі, перасоўныя сушыльныя ўстаноўкі, збожжаўборачныя камбайны прадукцыйнасцю 15—20 гектараў у дзень пры ўраджайнасці 60 цэнтнераў з гектара і шэраг іншых машын і механізмаў. Агульны кошт пералічанага набору тэхнікі і інвентару — каля 45 мільёнаў 775 тысяч нямецкіх марак, што адпавядае 915,5 маркі капукладанняў на гектар зямлі. Прадугледжваецца 2-гадовая гарантыя на пастаўляемую тэхніку. Апрача таго, першыя тры гады бясплатна пастаўляюцца запасныя часткі. Пастаўшчык забяспечвае на працягу першых двух гадоў навучанне персаналу, а таксама кансультацыі па выкарыстанню тэхнікі непасрэдна на месцах. Бясплатна праводзяцца кансультацыі па прымяненню сродкаў аховы раслін, угнаенняў, насення, а таксама планавання пасяўных плошчаў. Пры жаданні можна бясплатна арганізаваць тэарэтычнае і практычнае навучанне персаналу на нашых прадпрыемствах — у Мекленбург-Фарпомперне і Шлезвіг-Гольштэйне.

Што датычыцца аплаты, то яе можна будзе ажыццяўляць на бартэрнай аснове шляхам пастаўкі лесу, ільну, калійных угнаенняў, мачавіны і торфу. Патрэбны яшчэ ўрадавыя гарантыі па аплаце на ўвесь тэрмін, які разлічаны на 5 гадоў. Можам за адпаведную аплату дапамагчы наладзіць непасрэдна ў калгасах перапрацоўку малака і мяса, а таксама будаўніцтва хлебапякарняў і іншых аб'ектаў сельскагаспадарчага прызначэння.

Мы з усёй адкрытасцю заяўляем, што прыехалі сюды не з падачкамі, а з тым, каб зарабляць грошы і навучыць гэтаму вас.

Упэўнены, што пры ажыццяўленні гэтага і іншых праектаў будзе забяспечана вытворчасць эканамічна чыстых прадуктаў харчавання, а пры неабходнасці значная колькасць першакласных беларускіх прадуктаў паступіць на сусветны рынак, дзе будзе рэалізавана па сусветных цэнах.



У час прыёму нямецкай дэлегацыі ў рэдакцыі (крайні злева Пітэр ШТОЦ).



Начальнік каўбаснага цэха Аляксандр МІХАЛЕВІЧ аглядае гатовую прадукцыю.

211842, Беларусь, Пастаўскі раён, вёска Навасёлкі 1, калгас імя Суворава.
Тэлефон 8-021(55) 2-11-63;
факс 8-021(55) 2-15-42.

Матэрыялы старонкі падрыхтаваў Уладзімір ГОЙТАН. Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.

